№ 217 (799)

Аўторак, 23 лістапада 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 25000 руб.,
па падпісцы — 18000 руб.,
у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас





**Паэт і час**

## *Алег ЛОЙКА*

### Землякі

*Што за гоман, браткі, такі:*
*"Землякі!..", "Землякі!..", "Землякі!.."*
*Не Расія тут, не Галандыя,*
*А суцэльная Зямлякаландыя:*
*На палацах, як пацукі,*
*Папрымошчваліся землякі;*
*На дажынках — не мужыкі, —*
*Парожняць глякі землякі;*
*На базарах — Белград, Тэль-Авіў*
*Гняздзечка зямляцкае звіў...*
*"З новым ландам, атлас, хаўрусь, —*
*Пагрукотвае землятрус, —*
*Забывай, што ёсць Беларусь,*
*Забывай, што ёсць беларус!.."*
*Землякоў, быццам бадылля...*
*То не гоман, — гэта плач:*
*Беларуская зямля,*
*Не зямлячся, не зямляч!..*
*Што за гоман, браткі, такі?..*
*Сэрца, праўду кажы, не хлусь:*
*Новаз'яўленыя землякі*
*Адпяваюць цябе, Беларусь!..*

### Адрачэнцам

*Світ заўжды завітае,*
*А узоры ткаць зорам...*
*Клятва, яна — святая,*
*Парушаць клятву — сорам!..*

*Сын перакажа ўнуку,*
*Бор — барам касагорым:*
*Клятва, яна — не прынука,*
*Парушаць клятвы — гора!*

*Шлях людскі — шлях нялатвы*
*Ў злыдніцтве і ў дыфірамбе...*
*Даўшы клятву, клятву*
*Парушаць — ганьба!..*

*Ні ў Візантыі, ні ў Рыме,*
*Ні на катурнах, ні босым*
*Адрачэнца не прыме*
*Ні зямля, ні нябёсы.*

*Гэта — не аступіцца,*
*Гэта — не адкупіцца,*
*Не ўцячы, не схавацца,*
*Хлусячы, не адбрыкацца!..*

*Прысягайце ж, душы,*
*На Бібліі, на Каране, —*
*Неруш клятвы парушыш*
*На міг хоць — навек пакаранне!..*

*Лір зацяліся струны,*
*Далеч завалаклася, —*
*Спеляць нябёсы пяруны*
*Руцэ, што адраклася,*

*Што не адно да сэрца*
*Пецярнёй прыпадала,*
*Ідучы па каберцы*
*Да высокага п'едэстала.*

### Памірай, а дом будуй...

*Памірай, а дом будуй,*
*Жыта і пшаніцу сей,*
*Сад садзі, дзяцей гадуй*
*Паціхутку, пакрысе.*

*Дом будуй, каб родны край*
*Расквітнеў ва ўсёй красе,*
*Абяртай сады у рай*
*Паціхутку, пакрысе.*

*Як я раю — іншым рай,*
*І пазбудземся пакут.*
*Там яшчэ ці ўбачым рай,*
*А тут кінем райскі кут.*

*Велікодней, калядуй, —*
*Прэч, Гамора і Садом!..*
*Памірай, а дом будуй —*
*Беларускі родны дом.*

### Тут, над Шчарай...

*Тут, над Шчарай, дзе гэты дзень*
*Мне высокі твае, Шчара, ўзгоркамі,*
*Я шчаслівы, бы ўзгоркаў цень,*
*І ўспамінамі нават горкімі.*

*Далеч гэтая ўсцяж ракі,*
*Неба гэтае па-над ёю,*
*Вы калі мне душу ўраклі,*
*Для яе стаўшы западнёю?*

*Знаю, ведаю я, калі —*
*З майго першага ў свет пагляду, —*
*Дзякуй, Шчара, між верб і калін,*
*Між лугоў заліўных, між лядаў,*

*Дзякуй лёсу, што тут нарадзіў,*
*Што тут вочы адкрыў*
*у свет Божы, —*
*То не край мой, то з дзіваў дзіў,*
*Свет якімі і люд прыгожы.*

*Я шчаслівы, што ўбачыў*
*свет тут,*
*Ды пра большае шчасце я мару:*
*У апошні свой міг без пакут*
*На цябе пазіраць, Шчара!..*

### Азірнуўся вакол...

*Азірнуўся вакол, азірнуўся*
*Сэрцам, што не мае ўжо даўно,*
*Бо яно — дарагой Беларусі*
*Дно, якому дна не відно.*

*Падыму з дна і месяц, і зоркі,*
*Падыму сонца, Млечны Шлях —*
*Беларускі, слёзны, горкі,*
*Як Галгофы зямной праця;*

*Не схаваюся, не ўбаюся*
*На суровых, няўсцешных вятрах, —*
*Падыму Млечны Шлях Беларусі,*
*Ураню — утрапенне і страх.*

*Падыму, каб яго весніц, леціць,*
*Каб пад ім, хто, што,*
*дзе, як ні хлусь,*
*Беларусі ўвесь свет прывеціць,*
*Бо на тое ж і ёсць Беларусь!..*

## Что показал Стамбульский саммит?

**Его итоги комментирует координатор Хартии'97 по международным связям Андрей Санников**

Стамбульский саммит ОБСЕ, по сути, стал "Чеченским саммитом". Война в Чечне поставила под угрозу планируемые результаты встречи руководителей государств ОБСЕ. В конце концов все нужные документы оказались подписанными, но их ценность была явно снижена.

Соглашение об адаптации Договора об обычных вооружениях в Европе было подписано тридцатью государствами ОБСЕ в тот момент, когда его нарушает Россия. Соглашение ограничивает количество вооружений и боевой техники, которые государства могут размещать в приграничных районах, а Россия продолжает наращивать свое военное присутствие в Чечне. Демарш Ельцина, демонстративно покинувшего саммит раньше срока, не только продемонстрировал неуважение России к этой организации, но и снизил уровень российской подписи под заключительными документами. Следует напомнить, что именно Россия возлагает большие надежды на ОБСЕ как на единственную европейскую организацию, где она может обеспечить свое влияние. Именно Россия настойчиво лоббировала принятие Хартии европейской безопасности.

Чеченская война отодвинула на второй план и белорусскую проблему. Кроме того, Лукашенко накануне саммита слезно просил и представителей "тройки" Евросоюза, и руководителя рабочей группы Парламентской ассамблеи ОБСЕ А.Северина, и группу ОБСЕ сильно его не ругать в Стамбуле, в очередной раз обещая исправиться. Ему в очередной раз пошли навстречу и в Стамбуле основной акцент сделали на деятельности в Беларуси консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ, которая накануне саммита также выражала надежду на успех. Это неплохо, потому что тем самым чиновники ОБСЕ вместе с Лукашенко взяли на себя ответственность за все то, что будет происходить в Беларуси после саммита.

В целом саммит ОБСЕ продемонстрировал, что у этой организации пока нет реальных механизмов предотвращения конфликтов и урегулирования кризисных ситуаций в Европе. Это заставит вновь обратиться к конкретным механизмам, т.е. к Евросоюзу и НАТО. И здесь западным политикам придется оторваться от картинки "Ельцин, стоящий на танке в 1991 году", и трезво взглянуть на то, что в реальности происходит сегодня.

**Пресс-центр Хартии'97.**

**Стоп-кадр**



Агрономов, зоотехников и ветеринаров готовит для сельского хозяйства Лужеснянский сельскохозяйственный техникум, что под Витебском. За 90 лет существования это старейшее в Беларуси учебное заведение выпустило из своих стен около 19 тысяч специалистов.

**На снимке:** *лабораторные исследования ведут учащиеся ветеринарного отделения Ирина Осадчая и Настя Нефедова.*

**Фото Александра ХИТРОВА, БелТА.**

**Фальшь**

## Власть для народа или народ для власти?

Я — пенсионер. Не принадлежу ни к каким политическим партиям, являюсь приверженцем лишь одного — справедливости и правопорядка. Однако вот их-то в реальной сегодняшней жизни повстречать простому человеку весьма проблематично.

Мало сказать, что многие законы и инструкции у нас плохо исполняются, — изначально они создаются так, что служат интересам не рядового гражданина, а разным чиновникам и ведомствам. Я вот прочитал на первой странице президентской газеты "Рэспубліка" замечательный девиз нашего национального героя Кастуся Калиновского "Не народ для ўрада, а ўрад для народа" и подумал: да ведь в сегодняшней Беларуси все обстоит наоборот! И официозная газета явно фальшивит, громогласно возвещая этот прекрасный лозунг. Зачем хорошие слова, когда дела совсем иные?

Вот всего несколько вполне конкретных примеров. Глава государства А.Лукашенко, избранный президентом в 1994 году, положив руку на Конституцию страны, клянется в верности Главному Закону. Однако через пару лет переписывает этот закон себе в угоду. Ну просто как генералиссимус!

Возьмем законы по пенсионным делам. Многие льготы честным экс-труженикам с многолетним стажем (и раньше, впрочем, не ахти какие), принятые до Лукашенко, впоследствии были отменены. А ведь эти люди старались ради блага Родины не менее "персональных" чиновников, а теперь стали фактически нищими "миллионерами".

А узаконенная разница в пенсиях работников силовых структур и производственников? Да ведь если бы рабочие и колхозники не трудились в поте лица, обеспечивая высокие оклады тем же чиновникам и силовикам (но, увы, не себе), то последним тоже получать было бы нечего...

Верховный Совет 12-го созыва освободил участников Великой Отечественной войны от платы за землю под гараж. Президент своим указом отменил это, а так называемые палатники молча соглашаются. Да и странно было бы ожидать от них иного.

Или такое. Пенсионер летом выезжает на дачу, выращивает своим трудом овощи в подспорье скудным возможностям прокормиться. При этом он снимает с государства заботу об обеспечении себя овощной продукцией. Казалось бы, государство должно поддержать стариков-дачников, а оно смотрит на них чуть ли не как на спекулянтов, фактически штрафует за их же труд, продавая на даче газ и электроэнергию в два раза дороже, чем постоянному жителю деревни.

А разве справедливо, что продолжающему работать пенсионеру, исправно отчисляющему взносы в пенсионный фонд, к его пенсионному стажу годы работы после назначения пенсии не засчитываются? Разве можно назвать справедливыми законы, по которым инициатива, старание, трудолюбие, стремление реализовать свои силы сполна и соответственно заработать на жизнь не только не поощряются, а удушаются? Ты — не хозяин своего положения и не можешь ничего изменить. Кинут рабочему 30, а пенсионеру 15 долларов в месяц — и будь здоров и доволен, благодари и восхваляй "народную" власть. Да ведь такое восхваление будет сущей фальшью — как тот лозунг в газете "Рэспубліка".

**Н.ГУРИНОВИЧ,**
**участник Великой Отечественной войны.**

г.Молодечно.

## Не аддадзім Беларусь!

*Многія чытачы газеты рашуча выступаюць супраць аб'яднання з Расіяй. Вось радкі з некаторых допісаў.*

### Нас чакае трагічны лёс

Трагічны лёс чакае нашу мову, культуру, гістарычную спадчыну... У савецкія часы "цэнтр" клапаціўся аб гэтым выключна на словах, а беларускае кіраўніцтва халуйствавала перад ім. Адно толькі крыху суцяшала тады, што бяспраўнымі былі і астатнія рэспублікі-"сёстры", за выключэннем першай з іх. Цяпер жа і такой палёгкі не будзе: акрамя Лукашэнкі больш ніхто не пойдзе на інтэграцыю, якая вядзе да страты незалежнасці краіны.

Каб прадухіліць у будучым новае адраджэнне Беларусі, Расія будзе праводзіць у дачыненні да яе такую эканамічную палітыку, якая не дазволіць ёй і кроку ступіць самастойна. Пра гэта ўжо гады два-тры адкрыта пішуць і гавораць расійскія газеты і палітыкі.

Дзярждума РФ прыняла закон, паводле якога тэрыторыя Расіі "неделима и неприкосновенна", а аддзяленне суб'екта РФ "не допускается". Каб забяспечыць выкананне закона, могуць быць выкарыстаны ўзброеныя сілы, што і назіраецца ў нашы дні на Паўночным Каўказе. Дарэчы, нават пры камуністычным рэжыме Канстытуцыі СССР і саюзных рэспублік, у тым ліку БССР, няхай сабе і фармальна, але прадугледжвалі іх "права свабоднага выхаду з СССР". Цяпер яго не будзе.

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ,**

**Мінск.**

### Навошта вяртацца ў казарму

Аб'яднанне не выгаднае для Беларусі. Краіны, якія раней знаходзіліся ў складзе царскай Расіі (Фінляндыя, Польшча, Прыбалтыйскія краіны), жывуць зараз лепей за нас, галоўным чынам дзякуючы сваёй незалежнасці. Жыць у асобнай кватэры лепей, чым у казарме або інтэрнаце.

Расія — вялікая крымінальная і мафіёзная краіна, і разам з ёю ў адной дзяржаве будзе няўтульна і небяспечна. Яна вядзе зараз грамадзянскую вайну з часткаю свайго народа і можа ўцягнуць у гэтую вайну і нас.

Амаральна аддаць незалежнасць, за якую раней змагаліся, гінулі ў войнах з Расіяй і паўстаннях нашы продкі. Ужо ад таго Вялікага княства Літоўскага, нашых былых этнічных зямель засталася толькі палова. Другая палова страчаная па віне Расіі. Зараз хочуць адабраць астатняе, тое, што яшчэ засталося. А той, хто няздольны кіраваць краінай самастойна, як таго патрабуе Канстытуцыя, ужо гатовы яе аддаць. Не аддадзім БЕЛАРУСЬ!

**Марат ГІРКО.**

**Мінск.**

### Боже упаси от этого объединения

Десятками лет многие государства борются за свою независимость, тысячи людей умирают за это. Потому что независимое, равноправное государство — гордость народа и гарантия его процветания.

Я ничего не имею против России, и рвать связи с ней, естественно, не нужно, но на ней одной замыкаться тоже не следует. С ней можно заключать договоры экономические и политические, как это делается всеми государствами во всем мире, но полное объединение — Боже упаси. Даже все дети хотят жить отдельно от родителей, ибо в таких семьях почти всегда мир и согласие. Семьи, живущие в одной квартире или коммуналке, всегда страдают.

**И.ШЕСТАК,**

**г.Барановичи.**

### Почему нам не дают слова

И у нас, и в России постоянно твердят, что белорусы спят и видят себя в составе России. Я тоже белорус и категорически против такого объединения. Против и многие мои соседи. Да мало ли таких, как мы? Пожалуй — большинство. Почему же тогда о наших мыслях ни гу-гу. Ни по российскому телевидению, ни по белорусскому.

**КАПУСТИН,**
**пенсионер.**

**г. Борисов.**

### Разговор о дешевой российской нефти — это сыр в мышеловке

Договор о создании союзного государства с Россией — это петля на шее белорусского народа, которая постепенно будет затягиваться туже и туже. Беларусь уже была в составе Российской империи и никаких прав не имела. А всякие ее конфликты с другими государствами смертельно сказывались на Беларуси.

Возьмем 1812 год. Россия воевала с Францией. Война прошла по территории Беларуси. Разрушены и сожжены села, города.

В 1914 году Россия воевала уже с Германией. Та же участь постигла снова белорусский народ.

В период с 1930 по 1953 годы "отец всех народов" насильно вывозил белорусов в Сибирь, на север осваивать богатства этих регионов, где почти все люди погибали.

Сейчас нас вновь хотят втянуть в союз с Россией, обещая, что мы получим по внутренним ценам России нефть и газ. Но эта приманка не что иное, как сыр в мышеловке.

Беларусь может нормально жить только за счет транспортировки товаров через свою территорию. Пусть Россия оплачивает по мировым ценам за использование трубопровода, по которому посылает на Запад нефть и газ.

Надо создать нормальную границу с Россией, чтобы предотвратить поступление в Беларусь преступников всех мастей, зараженных и больных, в том числе и СПИДом. Надо защищать здоровье своей нации, как это сделала Литва, Латвия, Эстония и другие республики.

Мы готовы дружить с народами России и Украины и будем поддерживать цивилизованные связи. Если нас присоединят к России, то процесс дружбы и уважения нарушится. Это хорошо видно на примере Чечни, Дагестана. Поэтому единственно правильный путь развития для белорусов — Республика Беларусь должна быть суверенной, независимой, безъядерной и нейтральной страной.

**П.БУЧИНСКИЙ,**

**г.Полоцк.**

## Больш за палову мінчан, апытаных сацыёлагамі, адзначылі, што сталі жыць горш у параўнанні з пачаткам года

Падчас анкетнага апытання, праведзенага 11—14 лістапада бягучага года сацыялагічнай службай "Зеркало" інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, пяцістам дарослым жыхарам Мінска было прапанавана параўнаць некаторыя бакі свайго жыцця з тым, што было напачатку 1999 года.

Больш за палову рэспандэнтаў — 61 працэнт — адказалі, што ў цэлым яны сталі жыць горш. 62 працэнты мінчан адзначылі пагаршэнне працы пасажырскага транспарту. Больш за палову апытаных (55 працэнтаў) адказалі, што ім стала цяжэй атрымліваць кваліфікаваную медыцынскую дапамогу. Практычна кожны другі рэспандэнт стаў горш харчавацца і апранацца (па 49 працэнтаў). 48 працэнтаў апытаных сталі менш зарабляць, 46 — менш сустракацца з сябрамі, а 42 працэнты — менш адпачываць. Адначасова кожны шосты рэспандэнт (16 працэнтаў) стаў больш цікавіцца падзеямі ў Беларусі і іншых краінах, а кожны дзесяты — 11 працэнтаў — больш зарабляць. Іншыя бакі жыцця мінчан за прайшоўшыя паўгода не зведалі істотных змяненняў.

**Леанід МІХЕЙЧЫКАЎ.**

## Брэсцкія прадстаўнікі апазіцыйных партый заяўляюць: Брэст не павінен ператварыцца ў "фарпост Расійскай імперыі"

Шэраг дэмакратычных апазіцыйных партый Брэста: Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада), Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларускі народны фронт "Адраджэнне" і партыя БНФ — прынялі сумесны зварот да жыхароў абласнога цэнтра, у якім паспрабавалі паразвейваць міф пра "ўсенародную падтрымку" аб'яднання Беларусі і Расіі.

Як гаворыцца ў звароце, абмеркаванне праекту Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы адбывалася зусім не дэмакратычна, а пад ціскам улад. Менавіта таму мелі месца фальсіфікацыі і падтасоўкі, якія не адлюстроўваюць сапраўднага стаўлення людзей да аб'яднання. "Нас уцягваюць у краіну, якая ўвесь час вае, дзе пануе крымінал у палітыцы і эканоміцы, — гаворыцца ў звароце. — На нашай тэрыторыі зноў хочуць размясціць расійскія ядзерныя ракеты, а беларускіх ваенных могуць накіраваць ваяваць за чужыя інтарэсы".

Аўтары дакумента падкрэсліваюць: Брэст не павінен ператварыцца ў "фарпост расійскай імперыі", толькі незалежная Беларусь з'яўляецца гарантам будучыні для кожнага з нас.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**



Пр. Арэста, Георгія, Канстанціна, Радзівона, Эраста.
К. Феліцыты, Клеменса.

90 гадоў з дня нараджэння С. С. Бульчыка (1909—1996), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі.

**ЛІСТАПАД**

**23**

**'99 АЎТОРАК**

| ☉ | ○ |
|---|---|
| Усход 7.52 | Поўня |
| Захад 16.00 | 9.04 |
| Даўж. дня 8.08 | Захад 9.05 |
| | Усход 17.44 |



## Список торговых точек "Белсоюзпечати",

### принимающих подписку на "Народную волю" в г.Минске со скидкой при льготной и обычной подписке — на 30 процентов, при ведомственной — на 20 процентов.

**Октябрьский район**

| | |
|---|---|
| Октябрьский пункт подписки | ул.Жуковского, 5/1 |
| Магазин №1 | ул.Жуковского, 5 |
| Магазин №12 | ул.Кижеватова, 80 |
| Киоск №228 | Университет культуры, ул.Рабкоровская, 17 |
| Киоск №245 | Больница скорой помощи, ул.Кижеватова, 56 |

**Партизанский район**

| | |
|---|---|
| Партизанский пункт подписки | ул.О.Кошевого, 8 |
| Магазин №6 | ул.Филимонова, 1 |
| Магазин №18 | ст.метро "Площадь Победы" |
| Киоск №2 | Лингвистический университет, ул.Захарова, 21 |

**Первомайский район**

| | |
|---|---|
| Первомайский пункт подписки | пр.Ф.Скорины, 113 |
| Магазин №3 | пр.Ф.Скорины, 76 |
| Магазин №13 | ул.Калиновского, 82/2 |
| Магазин №23 | ул.Славинского, 39 |

**Московский район**

| | |
|---|---|
| Фрунзенский пункт подписки | ул.Романовская Слобода, 9 |
| Магазин №20 | ул.Есенина, 16 |
| Киоск №34 | г-ца "Минск", пр.Ф.Скорины, 11 |
| Киоск №37 | Дом правительства, ул.Советская, 11 |
| Киоск №38 | Педагогический университет, ул.Советская, 18 |
| Киоск №40 | Мингорисполком, пр.Ф.Скорины, 8 |
| Киоск №95 | Комитет архитектуры и гражданского строительства, ул.Мясникова, 39 |
| Киоск №243 | Совмин, ул.Советская, 9 |
| Киоск №302 | 9-я больница |

**Фрунзенский район**

| | |
|---|---|
| Центральный пункт подписки | пр.Машерова, 51/1 |
| Магазин №11 | пр.Пушкина, 77 |
| Магазин №15 | ул.Танковая, 16 |
| Магазин №19 | пр.Машерова, 51/1 |
| Магазин №21 | ст.метро "Пушкинская" |
| Киоск №232 | МЗХ, пр.Машерова |
| Киоск №262 | г-ца "Планета", пр.Машерова, 31 |
| Киоск №298 | пр.Машерова, 75/1 |

**Ленинский район**

| | |
|---|---|
| Участок подписки "Белсоюзпечати" | ул.Володарского, 16, к.302 |
| Магазин №4 | ул.Ленина, 15 |
| Магазин №9 | пр.Рокоссовского, 140 |
| Магазин №14 | ул.Володарского, 22 |
| Магазин №25 | ул.К.Маркса, 21 |
| Киоск №16 | г-ца "Свислочь", ул.Кирова, 13 |
| Киоск №18 | Технологический университет, ул.Свердлова, 13/4 |

**Советский район**

| | |
|---|---|
| Магазин №2 | пр.Ф.Скорины, 44 |
| Магазин №7 | ул.Я.Коласа, 69 |
| Магазин №8 | ул.Сурганова, 40 |
| Магазин №16 | ул.В.Хоружей, 24 |
| Магазин №17 | ул.Некрасова, 35 |
| Киоск №136 | ст.метро "пл.Я.Коласа", выход к ин-ту Физкультуры |

**Центральный район**

| | |
|---|---|
| Магазин №10 | ул.Осипенко, 2 |
| Киоск №78 | г-ца "Юбилейная", пр.Машерова, 19 |
| Киоск №88 | Миноблисполком, ул.Энгельса, 4 |
| Киоск №187 | г-ца "Беларусь", ул.Сторожевская, 15 |

**Заводской район**

| | |
|---|---|
| Магазин №24 | ул.Жилуновича, 31 |
| Киоск №198 | Экономический университет |
| Киоск №209 | проходная МАЗа, ул.Социалистическая, 2 |

## Да 15 снежня можна аформіць падпіску на I паўгоддзе 2000 года

## НА ТВАЮ ЛЮБІМУЮ ГАЗЕТУ!

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ**

*У аддзяленнях сувязі:*

**63429** (ільготны) *для пенсіянераў, інвалідаў, уладальнікаў паўгадовай або квартальнай падпіскі* - **600.000** (на месяц)
**63222** (індывідуальны) - **750.000** (на месяц)
**63225** (ведамасны) - **1.200.000** (на месяц)

*У гандлёвых кропках "Белсаюздруку" г. Мінска:*

**63429** (ільготны) *для пенсіянераў, інвалідаў, уладальнікаў паўгадовай або квартальнай падпіскі* - **450.000** (на месяц)
**63222** (індывідуальны) - **550.000** (на месяц)
**63225** (ведамасны) - **1.000.000** (на месяц)

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на газету** ______ (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў ______

на 2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА на газету** ______ (індэкс выдання)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

Народная Воля

| Кошт | падпіскі | ______ руб. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______ руб. | | |

на 2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

